

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№95 (1112) 24 мая 1995 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541000 экз. Кошт у розніцу — 450 руб.

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Президент Армении Л.Тер-Петросян направил Александру Лукашенко телеграмму, в которой поздравил его с "победой на всенародном референдуме".***

В ней, в частности, говорится: "Волеизъявление белорусского народа стало подтверждением правильности выбранного Вами политического курса".

❑

***Боевые действия из Чечни перекинулись на территорию соседнего Дагестана, сообщил представитель штаба чеченских вооруженных формирований. По его данным, боевые действия ведутся в районе населенных пунктов Ахар и Тухчар, которые находятся в 7—8 км от административной границы Чечни и Дагестана.***

Однако в отделе милиции дагестанского города Хасавьюрт сообщили, что эта информация не соответствует действительности.

❑

***Президент Казахстана Нурсултан Назарбаев "в связи с простудой" не сможет прибыть в Минск, где 26 мая созывается заседание Совета глав государств СНГ, сообщили информированные источники в президентском аппарате.***

Казахстанскую делегацию возглавит вице-президент республики Ерик Асанбаев.

❑

***Правительство Армении заявляет о приостановлении своего участия в переговорных процессах минской группы ОБСЕ, говорится в заявлении армянского МИД.***

Данный шаг связан с диверсией на газопроводе в Марнеульском районе Грузии 21 мая, в результате которой приостановлена подача природного газа в Армению. В документе вина за взрыв возложена на "агентов правительства Азербайджана".

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской Межбанковской валютной биржи 23 мая вырос на 2 пункта по сравнению с торгами в понедельник и составил 5039 рублей за доллар.***

### Продвижение к демократии через изменения в армии

***Условия прохождения армейской службы для белорусских юношей все быстрее приближаются к уровню демократичных и цивилизованных стран.***

К свежим нововведениям следует отнести территориальный принцип комплектования войск, массовые городские отпуска в выходные и праздничные дни, гарантированные краткосрочные отпуска и многое другое. Следует сказать и о суточном рационе питания солдата. С 1 июня будет добавлено 50 граммов мяса, 20 граммов рыбы, по 5 граммов муки и соли. Ежедневно на солдатских столах будут присутствовать плодово-ягодные соки. А вообще на армейских продовольственных складах, как заверил временно исполняющий обязанности начальника продслужбы Министерства обороны полковник Виктор Крылов, имеется весь ассортимент необходимого продовольствия. Сбоев в питании нет и не предвидится.

### Коней на переправе меняют

***Более 60% предприятий Придвинья снизили объемы производства. Ими недодано продукции на 1 триллион 131 миллион рублей. Мелеет ручеек налоговых поступлений.***

Витебский облисполком, собрав руководителей предприятий области, чтобы рассмотреть ход реализации антикризисной программы, принял решение считать нецелесообразным дальнейшее пребывание в должности директоров АО "Оршастройматериалы", фирмы "Лёс" и коллективного предприятия "Витебский комбинат шелковых тканей". Окончательно судьбу двух первых руководителей решат соответствующие министерства, а последнего — сам коллектив предприятия.

Как подсчитали экономисты облисполкома, если не принимать радикальных мер, то к концу года названные предприятия не выйдут даже на треть объема продукции, который они выпускали в 1990 году.

**Александр ТУЛБУСОВ.**

### Вагоны делают в Гомеле

***На Гомельском вагоноремонтном заводе им. М.И.Калинина состоялась презентация нового вагона для пригородных сообщений, изготовленного на основе списанного польского.***

Он отличается новой конструкцией окон, дверей, модернизированными и обновленными электрообеспечением и теплоснабжением. Время гарантированной эксплуатации вагона более 15 лет, а цена в несколько раз дешевле нового, приобретенного за рубежом. Как заявил представитель Министерства путей сообщения Республики Беларусь, этот вагон будет включен в фирменный поезд "Брест—Варшава".

**Леонид ВЛАДИМИРОВ.**

### Календарь "краснеет" пожарами

***За прошедшую неделю в стране произошло 389 пожаров, ущерб от которых составил 873 миллиона рублей.***

Огнем уничтожено и повреждено 220 строений, 26 голов скота, 43 тонны грубых кормов, 15 единиц техники. Погибло 7 человек, из них один — ученик второго класса д.Хомск Дрогичинского района, который разлил и затем поджег бензин.

**Татьяна ЗАГВОЗДКИНА.**

### Причина смерти шокирует

***Как сообщила сотрудница отдела социальной помощи на дому Фрунзенского райисполкома белорусской столицы, в районе недавно зафиксирован необычный случай смерти ребенка. Заключение, данное патологоанатомами, шокирует даже в наше тяжелое время: восьмимесячный ребенок умер от голода.***

Как позже выяснилось, мать жертвы больше думала не о своем "чаде", а — о водке. Сейчас горе-родительница, которая, кстати, "воспитывала" детей без супруга, лишена родительских прав, а оставшихся малышей взяло под опеку государство.

**Юрий ЛЕШКЕВИЧ.**

### Мастера рисунка о войне

***В зале Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны открыта выставка графики под названием "Путь к Победе", посвященная Великой Отечественной войне.***

Экспозиция сформирована из фондов Государственного музейно-выставочного центра "РОСИЗО" Министерства культуры Российской Федерации. В нее вошли работы российских и белорусских графиков, созданные в 70—80-е годы как мастерами старшего поколения, бывшими участниками героических событий, — И.Л.Бруни, А.В.Кокориным, В.В.Сойфертисом, — так и более молодыми художниками, причастными к теме войны. Многие работы носят характер фронтовых зарисовок. Напоминанием о фронтовой дружбе военных лет русских и белорусских солдат служат включенные в экспозицию произведения белорусских графиков Г.Г.Поплавского и В.П.Шаранговича, хранящиеся в фондах российского министерства. С белорусской стороны организатором выступила галерея искусств "На Ростанях".

**Ирина КОЛОМЕНСКАЯ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.**

## Дударыкі



**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ, фота аўтара**

Зміцер Ровенскі, з якім мне давялося пазнаёміцца не так даўно, здзівіў, прыемна ўразіў неўтаймоўнай, бурлівай, нібы крынічка, энергіяй, любоўю да беларускай песні, танца, музыкі. Усю тую любоў і энергію з запалам і апантанасцю ён укладвае ў дзіцячы фальклорны калектыў "Дударыкі", што існуе пры Нацыянальнай школе-гімназіі №3 г.Мінска.

Каб вы бачылі, з якім захапленнем успрымаюць дзеці ўсё новыя і новыя ідэі свайго кіраўніка і настаўніка! Хлопчыкі і дзяўчынкі займаюцца ў калектыве па шмат гадзін. Рэпетыцыі насычаныя, напружаныя. У рэпертуары толькі народныя песні, танцы, найгрышы розных раёнаў Беларусі.

Я гляджу, слухаю імправізаваны канцэрт і шчыра здзіўляюся: няўжо столькі талентаў можа быць у адным калектыве? Кожнае дзіця спявае, танчыць, іграе на розных нацыянальных інструментах: гармоніках, дудках, скрыпках, цымбалах, жалейцы, саломцы, ліры, карыне, салаўі, званочках, кларнеце, гліняных пеўніках, розных шумавых інструментах накшталт лыжак, місак, пральных дошак...

Дзмітрый Дзмітрыевіч з дзецьмі выгадаваў спецыяльна для свайго ансамбля жывую птушачку, якая таксама ўдзельнічае ў канцэртах. Ах, якая гэта спявачка!

Амаль усе інструменты ў ансамблі зроблены лепшымі беларускімі майстрамі Лычкоўскім, Размысловічам, Гайдукевічам, Жукоўскім, Пратасевічам. Многія, асабліва жалейкі і дудачкі, зрабіў з высокім майстэрствам сам Дзмітрый Дзмітрыевіч Ровенскі.

Паказаць ва ўсёй прыгажосці нацыянальнае музычнае, танцавальнае, песеннае майстэрства беларусаў даводзілася "Дударыкам" на многіх, многіх сцэнах. Ансамбль — удзельнік многіх фальклорных фестываляў, як дзіцячых, так і дарослых. Дзеці выступаюць на прадпрыемствах горада, у калгасах. Некалькі гадоў таму за 16 дзён гастроляў дзеці далі 22 канцэрты ў многіх гарадах Германіі, прадстаўляў беларускае мастацтва ансамбль у Фінляндыі, Італіі.

Зміцер Ровенскі расказвае, што танцавальная праграма "Дударыкаў" ажыла, атрымала другое дыханне з моманту, калі ў ансамбль прыйшоў выдатны знаўца народных танцаў, таленавіты беларускі балетмайстар Мікола Котаў.

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### Аб вызваленні В.І.Шаладонава ад пасады Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь

Вызваліць Шаладонава Васіля Іванавіча ад пасады Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь па асабістаму жаданню (арт. 31 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

№ 193

18 мая 1995 г. г. Мінск.

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### Аб назначэнні В.С.Капітана выконваючым абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь

Назначыць Капітана Васіля Сцяпанавіча выконваючым абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, усклаўшы на яго абавязкі старшыні калегіі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

№ 194

18 мая 1995 г. г.Мінск.

Дні расійскай культуры

## За развітаннем будуць сустрэчы

Дні культуры Расіі ў Мінску прайшлі хоць і скромна, але прадукцыйна. Як падкрэсліў першы намеснік міністра культуры Расіі Канстанцін Шчарбакоў, які ўзначальваў дэлегацыю гасцей, у супрацоўніцтва з брацкім беларускім народам — вялікія перспектывы. Прычым кантакты наладжваюцца на высокім прафесійным узроўні.

Вынікі творчага супрацоўніцтва ўжо ў час расійскіх Дзён прадэманстравалі Вялікія тэатры дзвюх дзяржаў, а таксама Маскоўскі сімфанічны аркестр і Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы. У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка графікі мастакоў Расіі і Беларусі, якая будзе працаваць да 28 мая. На ёй прадстаўлены работы дваццаці аўтараў. Усе творы для гэтай экспазіцыі ўзяты з фондаў Дзяржаўнага музейна-выставачнага цэнтра РОСІЗО, створанага пры Міністэрстве культуры Расійскай Федэрацыі. Прывезлі масквічы і карціны двух вядомых беларускіх графікаў Георгія Паплаўскага і Васіля Шаранговіча.

"Змацаваная крывёй дружба — святая дружба", — менавіта гэта фраза стала своеасаблівым лейтматывам сустрэч, якія праходзілі ў рамках Дзён расійскай культуры. Тым больш што яны былі прысвечаны 50-годдзю Вялікай Перамогі.

Прадстаўнікі расійскага літаратурнага цэха ў Мінску таксама дарэмна часу не трацілі. Як адзначыў пісьменнік Пётр Кошаль, наша літаратура актыўна друкуецца ў часопісах "Дружба народов", "Знамя", "Октябрь", у "Литературной газете". На жаль, мала выдаецца ў Расіі кніг беларускіх аўтараў. Намячаецца выпуск раманаў Уладзіміра Караткевіча на рускай мове. Затое дзякуючы выдатнай паліграфічнай базе вялікім попытам ў Расіі карыстаецца літаратура, выдадзеная ў нашай рэспубліцы.

Няма, як высветлілася, праблем і з прафесійнай падрыхтоўкай беларускіх літаратараў. Паводле слоў дацэнта Літаратурнага інстытута Сяргея Дзмітрыенкі, дзверы гэтай прэстыжнай расійскай ВНУ па-ранейшаму адчынены для беларусаў. Для нашых таленавітых маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў навучанне там бясплатнае.

У бліжэйшых планах беларуска-расійскага супрацоўніцтва — фестывалі "Звіняць цымбалы і гармонік", "Славянскі базар", два пленэры ў Віцебску. У Расіі павінна адбыцца ў гэтым годзе персанальная выстаўка Міхаіла Савіцкага.

**Віктар КУКЛОЎ, Белінфарм.**

## Што такое "асаблівыя заслугі"?

Днямі зайшоў я ў аддзел сацыяльнага забеспячэння свайго Ленінскага раёна сталіцы, каб высветліць, калі мне змогуць прадаставіць пуцёўку для санаторнага лячэння згодна з медыцынскай даведкай. Я — інвалід Вялікай Айчыннай вайны другой групы. Апошнія гады вельмі часта хварэю. На гэты раз хвароба абвастрылася, і дактары далі заключэнне, што трэба абавязкова падлячыцца ў спецыяльным санаторыі. У заяве канкрэтна ўказваўся адзін з санаторыяў, якія размешчаны на нашай славутай Нарачы.

Седзячы ў аддзеле сацыяльнага забеспячэння, я чакаў адказу.

— А вы маеце асаблівыя заслугі? — запытала ў мяне адносна маладая прыгожая жанчына, якая займаецца размеркаваннем пуцёвак.

— Якія асаблівыя заслугі, Раіса Пятроўна? — здзіўлена паглядзеў я ў вочы субяседніцы. — Не разумею, пра якія заслугі вы гаворыце.

— А хіба вы не маеце звання заслужанага дзеяча культуры? — зноў пытаецца ў мяне Раіса Пятроўна. — А вось ваш таварыш з Саюза пісьменнікаў прыходзіў учора. Мы яму выдалі пуцёўку без чаргі.

Яна назвала прозвішча вядомага пісьменніка, які мае высокія званні, тытулы і адразу ж праз некалькі дзён пасля падачы заявы атрымаў пуцёўку на курорт, якую прасіў.

Афіцыйная службовая асоба растлумачыла мне, "цёмнаму, некампетэнтнаму кліенту", што пуцёўкі ў розныя санаторыі па лініі райаддзела сацыяльнага забеспячэння своечасова і нават без чаргі выдаюцца незалежна ад стану здароўя дэпутатам Вярхоўнага Савета, а таксама пенсіянерам, якія маюць званні народных альбо заслужаных дзеячаў культуры, навукі, іншых відаў працы. Прытым пуцёўкі даюцца ў лепшыя санаторыі не толькі на тэрыторыі рэспублікі, але і за яе межамі: у Крым, на Каўказ, у Прыбалтыку. Гэта зацверджана адпаведнымі пастановамі дзяржаўных улад. Мне ж як проста інваліду вайны другой групы прапануецца пуцёўка ў пансіянат, дзе ў пакоі размяшчаецца па чатыры чалавекі, з абмежаванымі медыцынскімі працэдурамі.

— Выбачайце, Раіса Пятроўна, — сказаў я, — у мяне таксама ёсць прэтэнзія — я ж маю медаль "За баявыя заслугі", атрыманы на вайне яшчэ ў 1942 годзе. А затым за ўдзел у баях быў узнагароджаны чатырма баявымі ордэнамі — двума Айчыннай вайны першай і другой ступені, двума Чырвонай Зоркі.

— Гэта мы ўлічым, — спачувальна глянула на мяне субяседніца. — Пачакайце крыху, магчыма, што-небудзь паступіць да нас ад клінікі Упраўлення Савета Міністраў у "Сосны" на Нарач. Тады паведамім вам...

Што я мог сказаць яшчэ ў сваё апраўданне чалавеку, які размяркоўвае пуцёўкі згодна з устаноўленымі інструкцыямі і ўказамі Прэзідэнта, распараджэннямі яго адміністрацыі? У сабесе, пэўна ж, ведаюць з маіх дакументаў, заяў, што я — непасрэдны ўдзельнік вайны, прайшоў яе ад званка да званка, быў у баях двойчы паранены і цяжка кантужаны. Пасля вайны спецыяльнай камісіяй быў прызнаны нягодным да страявой службы, але працягваў служыць у вайсковых рэдакцыях журналістам. Звольнены ў запас у званні падпалкоўнік. Але званне гэтае мне нічога не дае, бо ў мяне не было тэрміну выслугі, атрымалася толькі няпоўных дваццаць гадоў.

Пра сваю працоўную дзейнасць гаварыць не трэба. Больш як пяцьдзесят гадоў бесперапыннага працоўнага стажу. На творчым рахунку каля трыццаці кніг паэзіі і прозы. За адну з іх ("Пірог памяці") атрымаў літаратурную прэмію імя народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Праўда, высокіх пасад не займаў, бо заняць месца ў наменклатуры не імкнуўся. З начальствам асабліва не дружыў. Мне ўжо ідзе семдзесят шосты год, жыву на інваліднай пенсіі. Дзякаваць Богу, не забываюць і пра мяне. Атрымаў вось медаль "50 гадоў Перамогі", гадзіннік у падарунак, шэсць мінімальных зарплат матэрыяльнай дапамогі. Што мне яшчэ трэба?

Калі я адыходзіў з раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння, службовая асоба паглядзела на мяне як быццам з нейкім жалем і спачуваннем. Але ж чалавека не шкадаваць трэба, а паважаць.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА, беларускі пісьменнік, інвалід Айчыннай вайны.**

Рэзананс

## Праблема патрабуе неадкладнага вырашэння

У Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь разгледжана надрукаванае ў "Народнай газеце" за 11 красавіка 1995 года пісьмо Фонду падтрымкі асветы пад загалоўкам "Порнографию не замаскируешь голубой обложкой с розовым бантиком". Пагаджаемся, што закранутая ў пісьме праблема мае месца і патрабуе неадкладнага вырашэння.

Павінны Вас запэўніць, што адпаведнымі службамі міністэрства ажыццяўляецца пастаянны кантроль па выяўленні ў перыядычных і іншых друкаваных выданнях матэрыялаў, якія прапагандуюць парнаграфію, культ насілля і жорсткасць. Кіраўнікі паліграфічных прадпрыемстваў пры прыняцці ў друк выдавецкай прадукцыі сумніўнага характару патрабуюць ад заказчыкаў заключэнні Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі і прадметаў на наяўнасць у іх прыкмет парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці.

Пытанні этыкі і маралі часта бываюць прадметам абмеркавання на калегіі міністэрства, на семінарах і нарадах з работнікамі друку. 23 мая г.г. на калегіі міністэрства будзе разгледжана пытанне "Аб ролі маладзёжнай прэсы Рэспублікі Беларусь у маральна-этычным выхаванні падрастаючага пакалення".

У 1993 годзе пры міністэрстве створаны Дзяржаўны рэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм, які займаецца прадухіленнем з'яўлення на экранах кінатэатраў і тэлеэкранах нізкапробнай і амаральнай кінавідэапрадукцыі. Толькі ў 1994 годзе Дзяржрэгістрам было праккласіфікавана 290 кінакарцін "вялікага экрана" і амаль 54 тысячы відэафільмаў.

На жаль, Міністэрства культуры і друку не заўсёды знаходзіць паразуменне з вышэйзгаданай Рэспубліканскай экспертнай камісіяй. Напрыклад, у сакавіку 1993 года міністэрствам быў прыпынены выпуск "Русских заветных сказок" А.Афанасьева. Рэспубліканская экспертная камісія зрабіла заключэнне, што кніга карысная для навуковых работнікаў (літаратараў, моваведаў, фалькларыстаў), і рэкамендавала распаўсюджваць яе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у непразрыстых пакетах, прадаваць у спецыяльна вызначаных месцах.

Што датычыць рэкламна-вытворчага таварыства "Парадокс", якое выпусціла серыю кніг "Презент", то менавіта гэтую серыю мела на ўвазе міністэрства, папярэджваючы кіраўніка таварыства У.Шарпілу аб немэтазгоднасці выпуску нізкапробнай сексуальна-эратычнай літаратуры. Аднак Рэспубліканская экспертная камісія на запыт аб якасці кніг "Парадоксу" (а іх 7) не выявіла парушэнняў маральна-этычных нормаў і дала дазвол на распаўсюджванне падобнай літаратуры, зазначыўшы ў заключэнні, што ў "творах не ставіцца мэта прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці, а сексуальна-эратычныя сцэны натуралістычнага характару ў асноўным апісваюць псіхіка-валявыя якасці асобы".

Даводзім да Вашага ведама, што, падзяляючы думкі прадстаўнікоў Фонду падтрымкі асветы, Міністэрства культуры і друку ў свой час унесла ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы абавязаць Рэспубліканскую экспертную камісію па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў інфармацыі і прадметаў на наяўнасць у іх прыкмет парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці прад'яўляць больш сур'ёзныя патрабаванні да дасланых на экспертызу друкаваных выданняў, на старонках якіх абражаецца маральнасць, гонар і годнасць грамадзян.

Разам з тым усе ведамствы міністэрства, якія маюць дачыненне да выпуску і распаўсюджвання друкаванай прадукцыі, строга папярэджаны аб іх дзейнасці ў адпаведнасці з загадам Міністэрства культуры і друку "Аб мерах па спыненні прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці ў сродках масавай інфармацыі і выдаючых арганізацыях рэспублікі" (№25 ад 15.03.93 года).

У сувязі з фактамі выхаду ў выдавецтвах рэспублікі кніг сумніўнага зместу міністэрства рыхтуе для разгляду на калегіі пытанне аб практыцы планавання і выдання кніг у выдавецтвах Беларусі і павышэнні адказнасці кіраўнікоў выдавецтваў за змест выдаваемай прадукцыі.

**А.І.БУТЭВІЧ, міністр культуры і друку.**

## Из Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов

Юридический отдел Центральной комиссии доводит до сведения избирательных комиссий, кандидатов в депутаты Верховного Совета Республики Беларусь и избирателей следующее.

Установление результатов выборов по избирательному округу во втором туре голосования, если выборы признаны состоявшимися, производится следующим образом.

Определяются фактические результаты голосования по каждому из двух кандидатов в депутаты. Для того, чтобы кандидат в депутаты был признан избранным, согласно статье 56 Закона Республики Беларусь "О выборах депутатов Верховного Совета Республики Беларусь", ему необходимо получить большее число голосов, чем у другого кандидата, при условии, что число голосов, поданных за него, больше числа голосов, поданных против него.

Покажем это на следующем примере. В избирательном округе по спискам насчитывается 30000 избирателей. Получили избирательные бюллетени 18000, или более половины избирателей. Следовательно, выборы признаны состоявшимися. Приняли участие в голосовании (на основании протоколов участковых комиссий о бюллетенях, которые находились в ящиках для голосования) 17000 избирателей. Из этого количества необходимо исключить недействительные бюллетени. Предположим, что недействительных бюллетеней было 1000. С учетом этого общее число бюллетеней, по которым будет производиться подсчет результатов голосования по каждому кандидату, составит 16000.

Повторим, для того, чтобы кандидат в депутаты был избран, ему необходимо получить большее число голосов "за", чем голосов "против". Значит, иметь большее количество голосов "за", чем голосов "против", при приведенном выше количестве — 16000 — действительных бюллетеней означает, что кандидат, чтобы быть избранным депутатом, должен получить не менее чем 8001 голос "за". Разумеется, кандидат в депутаты в указанном примере для того, чтобы быть избранным депутатом, может получить и большее число голосов "за", чем 8001, но никак не меньшее. Другими словами, **во втором туре голосования, чтобы быть избранным (если выборы состоялись), кандидат в депутаты должен получить в любом случае большинство голосов "за" от общего количества голосов, содержащихся в действительных бюллетенях (т.е. от действительных бюллетеней).**

Учет же недействительных бюллетеней важен лишь для установления факта, свидетельствующего о том, состоялись выборы или нет. При действующей норме Закона (ст. 56), если предположить, что количество недействительных бюллетеней окажется достаточным и даже чрезмерно большим, кандидат может быть избран депутатом, если он наберет и даже относительно небольшое число голосов "за", но при этом голосов "против" окажется меньше.

Могут быть и такие случаи, когда оба кандидата в депутаты получат равное число голосов "за" и "против". В этом случае ни один из них избранным не считается. Также не будет избран ни один из двух кандидатов, если число голосов "за" у каждого из них будет меньше, чем голосов "против".

Народная газета

РЭПАРЦЁР ДАВЕДАЎСЯ

## Міхаіл Чыгір канец мая правядзе ў Бухарэсце

***З 29 па 31 мая па запрашэнню прэм'ер-міністра Румыніі Нікалае Вэкэрою адбудзецца афіцыйны візіт прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра ў Бухарэст.***

Як паведамілі Белінфарму ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС рэспублікі, у ходзе візіту прадугледжваецца абмеркаванне шырокага кола пытанняў двухбаковага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, якія маюць узаемны інтарэс, а таксама падпісанне пагадненняў паміж урадамі Румыніі і Рэспублікі Беларусь аб садзейнічанні ажыццяўленню і ўзаемнай абароне інвестыцый, аб супрацоўніцтве ў галіне міжнароднага аўтамабільнага транспарту, аб супрацоўніцтве ў галіне паветранага транспарту, а таксама палажэння аб рабоце змешанай беларуска-румынскай камісіі па гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву.

**Белінфарм.**

*Мінск.*

## Хоць і падтрымка, але малаадчувальная

***Пасля вырашэння шматлікіх фармальнасцей, выканання шэрагу ўмоўнасцей прадпрыемствы Міністэрства прамысловасці Беларусі пачынаюць, нарэшце, атрымліваць належныя ім "пайкі" з крэдыту Міжнароднага валютнага фонду.***

Першымі ўладальнікамі валютнай дапамогі сталі вытворчае аб'яднанне "Інтэграл" і Мінскі аўтазавод, ім выдзелена адпаведна 10,9 і 5,3 мільёна долараў. Гэтымі днямі паступіць 10 мільёнаў долараў з гэтай жа крыніцы і на рахунак Мінскага трактарнага завода. Яшчэ дзевяць прадпрыемстваў чакаюць сваёй чаргі. Усяго ж сума крэдыту на дадзеным этапе для гэтай галіны вызначана ў 43,6 мільёна долараў.

Як растлумачылі карэспандэнту Белінфарма фінансісты Міністэрства прамысловасці, гэтая дапамога мае шматмэтавае прызначэнне, расходаваць яе прадпрыемствы будуць згодна з адпаведнымі бізнес-планамі. Толькі дадзены аб'ём крэдыту ў параўнанні з сённяшнімі патрэбнасцямі беларускай прамысловасці настолькі невялікі, што чакаць ад яго якіх-небудзь рашучых змяненняў у крызіснай сітуацыі проста не прыходзіцца.

**Таццяна СМІРНОВА, Белінфарм.**

## Сувязісты, мабыць, хочуць, каб народ стаў глухім

***Вёска Бараўляны Мінскага раёна размешчана ля самай сталіцы. Гарадскія гмахі ўзняліся нават на родных вуліцах. Святло, цяпло, зручнасці ў хатах.***

Цывілізацыя.

Але калі б тое! Што ні месяц рэдакцыю наведваюць хадакі з Бараўлян. То ў іх не працуе водаправод, то другая "халера", то трэцяя...

Зараз вось зноў скардзяцца людзі. Нібы ў рот вады набраўшы, маўчаць радыёкропкі. Нешта там "паляцела". Нават перад рэферэндумам нельга было паслухаць, хто чаго ў ім дамагаўся. Газеты — дарагія, не кожнаму па кішэні, а радыё ж сабе гаворыць. Дакладней — не гаворыць.

І гэта пад самай сталіцай! Што тады казаць пра, напрыклад, вёску Асташа Гродзенскага раёна, дзе прыёмнікі не "хрыпяць" ужо каторы год. Каб не плаціць дзяржаве дарэмных грошай, людзі абрываюць ад хат правады. Няма іх — няма праблемы. З-пад самай граніцы не находзішся ў рэдакцыю.

Міністэрства ж сувязі на такія "дробязі" ўвагі амаль не звяртае. Ды і навошта? Лепш узняць тарыфы на дастаўку ці яшчэ на які-небудзь від паслуг. І... не баліць галава за малюсенькую праблему на вёсцы.

**Іван АСАВЕЦ.**

Политический портрет

# Грязь в политике — результат ошибок избирателей. Но честный политик в грязь не влезет

Что такое политика? И почему во все времена, у разных народов и государств она признавалась вершиной для самовыражения и самоутверждения личности, ее притягательные и бурные водовороты "засасывали" людей самых неординарных и одержимых, влиятельных и богатых, уважаемых и талантливых, властолюбивых и тщеславных.

— Политика — средство набить себе карманы, урвать кусок получше, припасть к кормушке, — все чаще раздается глас народа.

— Политика — это война убеждений, схватка принципов, — утверждал американский президент Вудро Вильсон.

— Политика — это умение выражать и согласовывать интересы разных людей, это искусство компромисса, — считает председатель Объединенной демократической партии, юрист Александр Добровольский. Молодой, но известный политик, который единственный от Беларуси был приглашен Американским советом молодых политических лидеров для изучения системы выборов в США, который дважды общался с Биллом Клинтоном, в прошлом — депутат Верховного Совета СССР, сегодня — мой собеседник.



**— Александр Ольгертович, Е.Евтушенко как-то сказал: "Нет ничего неестественней такой профессии, как политика. ...Политика — это порождение человеческих слабостей. Сознательному человеку не надо, чтобы им управляли. Он никогда не употребит свою свободу против свободы других". Что Вы думаете по этому поводу?**

— Мы все можем только желать, чтобы люди стали сознательнее. Но вряд ли я имею право требовать, чтобы другой стал сознательным. Любой человек может быть таким, каким есть, каким он хочет быть. Конечно, до тех пор пока не нарушает права других, не претендует на то, чтобы применить к кому-то насилие. Политика — не порождение слабостей. Люди не идеальны, человека переделать нельзя. В нем всегда есть и добро, и зло. Если бы не было политики как необходимого инструмента выявления интересов разных людей и их мирного согласования, в обществе царили бы хаос и насилие, жизнь была бы кошмаром.

**— Говорят, равнодушие — это агрессия. Люди во всем разуверились. Как Вы собираетесь убедить их?**

— Если я считаю, что ничего не изменится, если мне все равно, каким будет парламент и я не хочу в этом участвовать, то почему я должен потом предъявлять претензии к действиям государства по отношению ко мне. Ведь я заранее даю согласие: "Делайте, что хотите, без меня". В таком случае я должен молчать, когда государство будет меня обкрадывать. Неучастие в политике не освобождает от ее результатов. Хотя люди уже начинают понимать, что пустым обещаниям верить нельзя. Те, кто обещают, сначала отберут, чтобы было чем обеспечить, потом перераспределят и, возможно, обеспечат, но в меньшей степени, чем отобрали, так как часть оставят у себя в карманах.

Государства — наши соседи — лучший пример для убеждения сомневающихся в том, что можно выйти из кризиса. При ценах, гораздо более стабильных, чем у нас, средняя зарплата в Польше приближается к 300 долларам, в Прибалтике — к 150, в России превысила 100... На многие товары цены здесь ниже, чем в Беларуси. Эти страны объединяет одно: в 1989 г. ситуация у них была такая же трудная, как и у нас, но вместо разговоров там занимались делом: в руководство были избраны люди, нашедшие в себе мужество проводить сложные реформы в интересах будущего своих стран.

Уверен, что и мы можем жить лучше, но для этого нужно учесть опыт реформ, не повторять чужих ошибок. Основные направления выхода из кризиса — стабилизация денег, стимулирование создания новых рабочих мест, снижение налогов, после выплаты которых предприятия не имеют даже денег на зарплату, не говоря уже о расширении производства.

**— Снизить налоги обещают все, но никто этого не делает...**

— Политики, которые заявляют о снижении налогов, должны относиться к этому серьезно. Нашей целью, безусловно, является снижение налогов. Но экономика инерционна, отдача здесь видна не сразу. Необходимо сокращение дефицита госбюджета, и в первую очередь — государственных расходов, бюрократического аппарата. Это обещают многие, но, как правило, выполняют только либералы. В России при утверждении бюджета только партия Е.Гайдара и еще несколько фракций выступили за снижение расходов на госаппарат. Но если этого не сделать, а налоги резко снизить, бюджет не будет пополняться, опять придется включать печатный станок. Поэтому налоги надо снижать неуклонно, но постепенно, чтобы стабилизировались деньги, появилось доверие к государству.

**— Александр Ольгертович, как можно бороться с бюрократами и чиновниками и можем ли мы когда-нибудь избавиться от них?**

— Бороться нужно не с людьми, а менять неэффективную систему управления. Засилие бюрократии — мировая болезнь. Беседуя с одним из экономистов о коррупции, я сказал, что корень этого явления — в существовании государства. И это утверждение повергло его в смятение. К примеру, если бы кто-нибудь как частное лицо вам предложил: "Дайте мне свою машину, а я вам — взятку", как это бывает у государственных чиновников, ситуация выглядела бы смешной. Взятка не имеет смысла между частными лицами, если они не у власти. Иначе они будут использовать ее, как и государственную собственность, в личных интересах. Сама возможность коррупции возникает с появлением государства. Чтобы снизить коррупцию, необходимо уменьшить сферу деятельности государства в обществе, а также ужесточить наказание за должностные преступления, добиваться равенства всех перед законом — это одно из основных требований ОДПБ.

**— Когда-то социологи даже не предполагали такого явления, как блат.**

— Коррупция существовала всегда, где существовало государство. Должности делились и при царе. Блатная форма той же коррупции, которая выражена в возможности некоторых получать что-то дешевле. Дефицит — типичный признак социализма. При капитализме его, как правило, либо нет, либо он быстро устраняется. Причины дефицита в том, что государство держит цену, контролирует производство. Известный венгерский экономист Янош Корнаи в книге "Дефицит" доказывает, что это явление приводит к спаду производства, стагнации, уменьшению доходов населения, к потреблению дешевых товаров самыми влиятельными и богатыми людьми. Блат — использование государственной власти для собственного блага.

**— "Политика — грязное дело" — хрестоматийная фраза. Но, если разобраться, в грязных руках и альпеншток становится орудием убийства...**

— Я убежден, политика не обязательно грязное дело. Она служит для мирного решения общественных проблем. Приходится учитывать интересы разных групп людей и договариваться. Многие считают, что в политике все средства хороши. Особенно преуспела в этом коммунистическая номенклатура. Посадить, уничтожить человека, если он других взглядов, было приемлемо ради "благой" цели. Кроме того, в повседневной жизни мы постоянно сталкиваемся с тем, что люди сознательно или подсознательно совершают плохие поступки. А политики, выходит, должны быть идеально чистыми? Да не бывает таких людей. К этому нужно стремиться, а главное — к установлению нормальных правил игры, политической культуры. Если избиратели будут понимать, что они отвечают за своего избранника, будут предъявлять к нему высокие требования, все изменится. В европейских государствах и США, если на человеке "пятно", его никуда не изберут. У нас такой — чуть ли не герой: жесткий, крутой, может все сокрушать, поэтому его надо выбрать. "Грязь" в политике появляется в результате ошибок избирателей. Поэтому важно, чтобы люди имели полную и достоверную информацию, а не пользовались слухами. Кстати, слухи часто используют нечистоплотные люди, чтобы навредить своим оппонентам. Например, в моем избирательном округе "запустили" слух, будто бы я построил коттедж в районе Червенского рынка. Мне противна эта ложь, я понимаю, что кому-то это выгодно.

Однако я уверен, что людей нельзя обманывать бесконечно, и каждый нечистоплотный политикан рано или поздно будет выведен на чистую воду.

**— Ваш кумир в политике?**

— Таких людей несколько. В первую очередь — Юрий Афанасьев. Это очень умный, талантливый, принципиальный и грамотный политик. К такому уровню надо стремиться. Безусловно, Андрей Сахаров. Но он политик другого, нетрадиционного склада. Для него было важно не столько согласование общественных интересов, сколько заявить об интересах тех, кого ущемляют, угнетают, и отстаивать их. Я работал с ним, и это оставило глубокое впечатление. Из зарубежных политиков авторитет для меня — Шарль де Голль, который без амбиций в трудную минуту был способен принять очень трудное для себя решение. Его обвиняли в установлении диктатуры и во многом другом, но он вывел Францию из кризиса, не дрожал за свою власть. Сейчас не хватает таких людей, которые могут взять на себя ответственность.

**— У политиков бывает время подумать только тогда, когда их убрали...**

— Такая проблема существует у каждого человека, который занимается серьезным делом и отвечает за него. И хотя мой рабочий день длится от темна до темна, времени подумать над каким-то вопросом действительно не хватает. Приходится ужесточать график, чтобы найти это время. Кроме того, в штаб-квартире ОДПБ мы часто проводим семинары, своего рода коллективную мыследеятельность, на которых рассматриваем и обсуждаем со всех сторон какую-то проблему, чтобы все в итоге смогли прийти к пониманию важных вещей. Иначе человек может жить по интуиции, опыту, не осмысляя, что вокруг происходит, своего места в этом процессе. А это опасно.

**— Ваша партия носит название демократической, а проповедуете Вы идеи либеральные.**

— Демократия — это власть большинства, она не означает уважения прав меньшинства, соблюдения прав человека. На Западе в таких случаях к демократии присоединяют либеральную идею, когда большинство не может нарушить права человека. Другими словами, если у человека есть права, демократия ограничена в своих действиях. Демократия может быть тоталитарной. Это, как говорил Уинстон Черчилль, инструмент плохой, но лучшего пока не придумали. Поскольку демократия на сегодняшний день является наилучшим способом управления государством, мы должны следовать ей. А главный наш принцип — верховенство прав человека перед интересами государства.

**— Спасибо за интервью. И успехов на выборах Вам и кандидатам от вашей партии во втором туре голосования.**

**Елена ЛИТВИН.**

ТОРГОВЫЕ НРАВЫ

# Нет рычагов у начальства...

Когда меня обманывают и унижают, когда мне хамят, я испытываю сильнейший стресс. Мораль и нравственность, кажется, уже навсегда преданы забвению. Обвес, обсчет, грубость и неуважение к покупателю, непонятно почему меняющиеся в течение одного дня цены — это уже никого не удивляет.

Недавно в гастрономе N 20 ТПФ "Центральная" я оказалась свидетелем того, как продавец колбасного отдела И.Волчок обсчитала пожилого мужчину на сумму около 6 тысяч рублей. Возник конфликт. Даже заведующая отделом Л.Турбан не смогла урезонить разъяренного продавца.

Встретившись с директором магазина Г.А.Спижарной, я поинтересовалась, почему коллектив не расстается с такими горе-работниками. В ответ Галина Афанасьевна посетовала на дефицит кадров и их текучесть.

И это при нынешней безработице! Почему же непрестижно работать в государственных продовольственных магазинах?

В большинстве своем эти магазины грязные, неуютные, давно не видавшие ремонтов, со старым, изношенным холодильным и грузоподъемным оборудованием. Чтобы привести все это в нормальное состояние, необходимы огромные средства. А некоторые из этих магазинов уже давно нерентабельны, низки заработки, еле-еле сводят концы с концами, да еще содержат на своем иждивении и ныне здравствующие базы, склады, райторги, которые переименовали себя сейчас в ТПФ — торгово-промышленные фирмы. Вся эта надстройка из целой армии пишущих, считающих и по-прежнему распределяющих товары работников мало интересуется положением дел у своих подопечных. Кажется, они не замечают того, что госмагазины при складывающихся рыночных отношениях становятся уже неконкурентоспособными. Спросите любую хозяйку, и она вам скажет, что уже давно покупает мясо, рыбу, яйца, растительное масло и другие продукты на рынке. Там они дешевле и всегда свежие.

И.Волчок начальство "наказало", лишив ее несуществующих премиальных и доверив ей теперь не колбасный, а мясной отдел.

Дефицит кадров в нашей госторговле с успехом восполняют бойкие старушки-пенсионерки, которые уже плохо видят и слышат, культурой обслуживания не блещут и порой сами способствуют созданию конфликтных ситуаций.

В магазине N 14 все той же ТПФ "Центральная" продавец далеко запенсионного возраста вместо кефира вручила мне бутылку молока. А когда я вернулась к прилавку, чтобы обменять ненужный мне продукт, то вместо извинений за допущенный недосмотр продавец разразилась оскорблениями. О хамстве со стороны торговых работников можно писать бесконечно.

— Писать бесполезно! — сказал мне мой знакомый, известный в республике журналист, специализировавшийся ранее на этой теме.

Я решила с ним не согласиться...

**Валентина БИЛИДА.**
*г.Минск.*

## Через столетия — рядом

***Два соседних народа, два этноса, которые на протяжении многих столетий контактируют между собой, — такова была тема "круглого стола", посвященного белорусско-латышским взаимосвязям, который проходил в серии "круглых столов" II Международного конгресса белорусистов.***

Его работой руководили ученые и литераторы братских народов Мирза Абала и Сергей Панизник. Сначала было предложено посмотреть выставку, рассказывающую о белорусском движении в Латвии с 20-х годов до конца 40-х. Сотрудник Института философии и социологии Академии наук Латвии доктор наук Илга Апиня, чей доклад назывался "Аб'яднаныя Даўгавай-Дзвіной", остановилась на современных статистических данных, касающихся белорусов в Латвии.

В докладах и дискуссиях на "круглых столах" большое внимание уделялось проблемам балтского влияния в белорусском искусстве, экономическим и культурным связям на протяжении столетий соседствования, белорусской печати и другим аспектам наших культур.

Сотрудник посольства Латвии г-жа Гундега Гробиня с удовольствием констатировала, что в Беларуси существует большая заинтересованность жизнью и культурой Латвии.

**Владимир ПУЧИНСКИЙ.**

НАШИ — ПЕРВЫЕ!

# И пришла к ним победа







На очередной игре Клуба веселых и находчивых в Московском Дворце молодежи три противника — "Львовские гусары", "Дагестанские бродяги" и "Тамбовские волки" — оказались сраженными мощным напором "Охотников" из Белорусского государственного университета. Представительное, как всегда, жюри, а за столиками у сцены за поединком наблюдали Юлий Гусман, Иван Демидов, Леонид Парфенов, Андрей Макаров, по достоинству оценило хорошо подготовленные музыкальные номера нашей команды. Победа в этой игре — это только начало еще одного этапа подготовки белорусских юмористов к нелегкой борьбе в полуфинале.

**Фото Сергея ГРИЦА.**



Погляд ветэранаў

## Не крытыкуйце Прэзідэнта

У новы ж парламент павінны прыйсці і новыя, здаровыя, разумныя, высокаадукаваныя, дзелавітыя, па-чалавечы прыстойныя і сумленныя, вядомыя і паважаныя ў сваіх выбарчых акругах людзі. З цяперашніх дэпутатаў Вярхоўнага Савета (ён ужо зжыў сябе!), па нашаму перакананню, маюць маральнае права застацца ў Авальнай зале Дома ўрада толькі тыя, хто не згадзіўся абдзіраць сваіх выбаршчыкаў для паляпшэння асабістага дабрабыту (напрыклад, Булахаў, Лябедзька і Шыпко). Мы вельмі спадзяёмся, што ў новым парламенце не будзе "дэмакратаў"-бунтаўшчыкоў, што там будуць прымацца добрыя законы для паляпшэння жыцця сваіх суайчыннікаў.

У заключэнне мы звяртаемся з вялікай просьбай да ўсіх нашых нацыянальных "герояў", горапалітыкаў, ваенных і цывільных "пакрыўджаных", супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі: спыніце зневажаць гонар і годнасць нашага Прэзідэнта А.Р.Лукашэнкі, які карыстаецца аўтарытэтам і павагай ва ўсім свеце (успомніце хаця б сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СБСЕ ў Будапешце), незаслужана яго крытыкаваць, пастаянна нерваваць, дайце яму магчымасць спакойна і плённа працаваць. Гэтым самым вы перастанеце раздражняць і пагаршаць здароўе яго шматлікіх састарэлых выбаршчыкаў-балельшчыкаў, якія пакутуюць многімі хранічнымі хваробамі.

**Пётр БЯЛЯЎСКІ, Уладзімір КАСЦЮКЕВІЧ, Віктар ПАТАПАЎ, Людміла ПАТАЕВА, Ганна ТАРАНКОВА, ветэраны вайны і працы.**

Взгляд юного человека

## Восьмое чудо света, или Новые выборы старых депутатов

Кажется, сегодня только младенец не знает, что такое выборы и с чем их едят. Однако далеко не каждый взрослый отдает себе отчет во всей сложности этого процесса. Вот и получается, наша национальная черта — характерная надежда на "авось" (даже в таком важном деле, как выборы парламента) непоколебима.

Бытует утверждение, якобы политика нас берет силой, мы все погружаемся в нее, хотим того или нет. Вопрос состоит лишь в том, действительно ли мы не хотим и стоит ли в нее погружаться всем кому не лень?

В последнее время все чаще и чаще приходится сталкиваться с некими паландинами (так называли в средние века рыцарей), "насилующими" себя выдвижением своей кандидатуры. Большинство из них с пеной у рта доказывают свою непричастность, нехотение: мол, соотечественники умоляют их искать путь в политическую элиту.

Затем, как в сказке, ненавязчиво появляется группа поддержки (естественно, на бескорыстных началах), пытающаяся объяснить, что именно "это" и есть то самое восьмое чудо света, отдающее себя на растерзание неблагодарному народу.

Именно такой идеей была одержима женщина-пенсионерка, посетившая нас на днях. Она подробно, в течение сорока минут, излагала "жизнь и судьбу", нет, не Гроссмана, а очередного кандидата:

— Он молод, горяч, ездил на полтора месяца стажироваться в Германию по вопросам коммунального хозяйства, поддерживает молодых предпринимателей, всегда хорошо выглядит и т.п.

Оказывается, достаточно быть молодым, иметь чистую обувь, опрятную одежду, пару раз побывать за границей — и... ты депутат.

Как-то странно, но положительные качества и заслуги почти всех депутатов сводятся примерно к одному — "прошел большой и сложный трудовой путь, всегда работал на пользу людям, достойными средствами добивался поставленной цели..."

Вот и получается, что не только "свежие" незапятнанные кандидаты в депутаты, но и старые, с далеко небезупречной репутацией, прошедшие, как они утверждают, девять кругов ада, вновь благодаря нашему безразличию пробивают себе дорогу, невзирая на "скромную" зарплату и "шахтерский" труд. Надо полагать, быть депутатом не так уж и плохо...

А нам, в свою очередь, не мешало бы помнить о том, что именно человек управляет привычкой, а не наоборот и куда легче избавиться от первых симптомов безразличия, чем лечить хроническое "а мне все равно".

**Ольга КОСТЮКЕВИЧ.**

## Искусство в помощь реставрации

***Гродненская хоровая капелла приглашена на гастроли во Францию.***

Такую инициативу проявила одна из ассоциаций города Лиможа, побратима Гродно. Финансирует поездку французская сторона. Все вырученные от концертов средства будут направлены на реставрацию старейшего сооружения на территории современного Гродно — Коложской церкви.

**Нина МАКСИМЧИК.**

## Зевс летит к Гее, "Галилей" — к Юпитеру

***В конце мая ночью в созвездии Скорпиона будет сиять желтоватая звезда.***

Это Юпитер, подчиняясь законам небесной механики, явился на свидание с Землей, хотя ближайшее расстояние между планетами составит более 600 миллионов километров. Сейчас в сторону этой гигантской планеты Солнечной системы летит созданный в США космический аппарат "Галилей", который в конце декабря этого года продолжит изучение Юпитера, начатое ранее другими американскими автоматическими межпланетными станциями.

**Владимир ЛАРИОНОВ.**

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС*ІНТЭРФАКС*НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

## Пульс дня

### Сустрэча адкладзена

**РАБАТ.** Правядзенне сустрэчы на вышэйшым узроўні кіраўнікоў шэрагу арабскіх дзяржаў у Касабланцы адкладзена, гаворыцца ў распаўсюджаным тут афіцыйным камюніке. Гэта рашэнне прынята пасля кансультацый паміж зацікаўленымі бакамі.

### Місія з Расіі

**УЛАН-БАТАР.** Сустрэчай паміж сакратаром савета бяспекі Манголіі Жаргалсайханой Энхсайханам і намеснікам сакратара Савета бяспекі Расійскай Федэрацыі Уладзімірам Рубанавым пачаўся афіцыйны візіт расійскай дэлегацыі, якая прыбыла ў мангольскую сталіцу. У цэнтры абмеркавання — пытанні супрацоўніцтва двух ведамстваў.

### Пратэст ураду ЗША

**ПЕКІН.** Міністр замежных спраў КНР Цянь Цічэнь ад імя кітайскага ўрада заявіў ураду ЗША рэзкі пратэст у сувязі з рашэннем вашынгтонскай адміністрацыі прадаставіць прэзідэнту Тайваня Лі Дэнхуэю магчымасць наведаць ЗША з прыватным візітам. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Кітая выклікаў пасла ЗША ў Пекіне Стэплтана Роя ў МЗС і заявіў яму, што рашэнне Вашынгтона парушае кітайска-амерыканскія сумесныя дакументы.

### Шырак паедзе ў Вашынгтон

**ВАШЫНГТОН.** Новы прэзідэнт Францыі Жак Шырак наведае Вашынгтон перад сустрэчай "вялікай сямёркі", якая адбудзецца ў наступным месяцы ў Канадзе. Як паведаміў Белы дом, кіраўнік французскай дзяржавы сустрэнецца з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам 14 чэрвеня, за дзень да пачатку ў Галіфаксе штогадовай эканамічнай нарады ў вярхах вядучых індустрыяльных дзяржаў.

### Пытанне глыбока вывучаецца

**ТОКІО.** Японскія ўлады афіцыйна прыступілі да вывучэння пытання аб прымяненні да секты "АУМ сінрыкіо", якая падазраецца ў арганізацыі актаў масавага тэрору, нацыянальнага закона аб падрыўной дзейнасці, на аснове якога гэта арганізацыя можа быць забаронена як "наносячая ўрон дзяржаве".

## Всемирный банк — за экономическое оздоровление Балтики

Всемирный банк присоединился к международным усилиям, направленным на то, чтобы остановить экологическую деградацию Балтийского моря путем осуществления семи проектов в трех прибалтийских странах, Польше и России.

Существенное внимание в работе над этими проектами будет уделено совершенствованию муниципальных служб водоснабжения и канализации, что должно снизить слив загрязненных отходов непосредственно в Балтийское море или во впадающие в него крупные реки.

Будут поддерживаться демонстрационные мероприятия в сфере управления сточными водами в сельской местности и снижения объемов стоков сельскохозяйственного производства, попытки улучшить управление экологически ценными прибрежными лагунами и сильно увлажненными землями вдоль побережья балтийских государств.

Из семи проектов по два будут осуществляться в Латвии и Литве и по одному — в Эстонии, Польше и России.

Общая стоимость составит около 1 млрд. долларов. Всемирный банк предоставит 240 млн. долларов. Остальные средства будут внесены региональными правительствами и собраны в виде коллективных грантов со стороны Европейского союза, Финляндии, Дании, Швеции и Соединенных Штатов. В финансировании проекта также примет участие Норвегия, сообщает Всемирный банк.

## К опасности шагнув под землю...

***На шахтах объединения "Донецкуголь" в 1994 году произошло 4614 несчастных случаев, из них 36 — со смертельным исходом. Об этом сообщила газета стачечного комитета объединения "Новости и события".***

На шахтах предприятия работает около 100 000 человек. Как сообщает газета, потери рабочего времени соответствуют простою в течение года пятитысячного коллектива. 9000 человек работает в условиях повышенной температуры воздуха.

"Новости и события" также сообщают, что число нарушений прав трудящихся со стороны администраций предприятий постоянно растет. Министерство угольной промышленности Украины до сих пор не приняло программу улучшения безопасности труда.

# Мы не можам страчваць расійскі рынак...

***Белавежскія пагадненні з'явіліся папярэднікам вялікіх палітычных і сацыяльных ломак і ўзрушэнняў. Былыя саюзныя рэспублікі назвалі сябе суверэннымі дзяржавамі. Аднак у хуткім часе стала зусім відавочна, што ні адна з іх у адзіночку выжыць не здольна. Рэспубліка Беларусь адной з першых зразумела гэту рэальнасць і паступова пачала рыхтаваць умовы для правядзення эканамічных рэформ, арыентуючыся не на прывідныя блокі і саюзы за межамі краін СНД, а на цесную інтэграцыю ў рамках Садружнасці, перш за ўсё з Расіяй. Аб усіх "за" і "супраць" гэтай інтэграцыі гутарка карэспандэнта Белінфарма з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Расійскай Федэрацыі Віктарам ДАНІЛЕНКАМ.***

**— Рэінтэграцыя ў "рамках дзвюх" ва ўзнікшай сітуацыі ўжо набывае рэальныя рысы. І ўсё ж, Віктар Дзмітрыевіч, наколькі плануемае такое глыбокае ўваходжанне Беларусі ў эканоміку Расіі спалучаецца з даўгачаснымі інтарэсамі народаў дзвюх незалежных дзяржаў?**

— Трэба дакладна вызначыць, што ініцыятыва стварэння такога эканамічнага саюза належыць Беларусі. І з пачатку яго ажыццяўлення, а гэта 1992 год, пройдзены вялікі шлях па падрыхтоўцы базы для цеснай эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Толькі ў гэтым годзе падпісана 18 дагавораў і пагадненняў на самым высокім узроўні, і ўсе яны пачынаюць працаваць. Дзяржаўная дума Расіі ўжо ратыфікавала рашэнне ўрада аб выдзяленні Беларусі 150 мільярдаў рублёў крэдыту. На чарзе — ратыфікацыя парламентам Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве. Што ж датычыцца пытанняў інтэграцыі нашых эканомік, то, мне здаецца, найбольш бачна і ўражліва на гэтае пытанне адказаў народ Беларусі, выказаўшы на рэферэндуме сваё жаданне на эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй. Варта заўважыць, што ўся эканоміка Беларусі фарміравалася на базе цеснай інтэграцыі з эканомікамі іншых рэспублік былога Саюза. Краіны СНД былі і застаюцца асноўнымі гандлёва-эканамічнымі партнёрамі, пры гэтым найбольшы знешнегандлёвы абарот рэспубліка мае з Расіяй: аб'ём беларускага імпарту ў Расію складае звыш 80 працэнтаў, такі ж прыкладна і аб'ём экспарту. Расія практычна поўнасцю забяспечвае патрэбнасці па важнейшых відах сыравіны, нафты, газу. З Беларусі ў Расію ідуць аўтамабілі, калійныя ўгнаенні, хімічныя валокны і ніці, станкі, трактары, шыны і многае-многае іншае. Я хацеў бы спытаць у тых, хто супраць такой цеснай інтэграцыі: дзе той Захад, куды можна пастаўляць гэту добрую, але не зусім канкурэнтаздольную прадукцыю?

**— Ці ёсць гарантыя, што інтэграцыя будзе садзейнічаць мадэрнізацыі вытворчасці і пераходу да рыначнай эканомікі? Ці не закансервуе гэта яе ранейшыя, узнікшыя пры сацыялізме, архаічныя адносіны і прамысловасць Беларусі і далей будзе арыентавана па якасці і па колькасці выключна на непатрабавальнага расійскага спажыўца? Ці не затрымаюць такая рэстаўрацыя і вяртанне да каманднa-размеркавальнай эканомікі выхад да рынку?**

— Яшчэ раз падкрэслю: нам нельга страчваць свае рынкі, а асабліва расійскі. У прамысловасці мы працуем нядрэнна. Скажу больш — мы добра працуем.

Беларуская прадукцыя ў рэкамендацыях не мае патрэбы, яе заўсёды ахвотна бралі ў краінах Садружнасці. І размова можа ісці цяпер не аб змяненні спецыялізацыі рэспублікі, а толькі аб інтэграцыі патэнцыялаў Расіі і Беларусі ў рамках адносна нешматлікіх транснацыянальных карпарацый ці фінансава-прамысловых груп. Тыя, хто лічыць, што эканамічны саюз з Расіяй толькі прыпыніць спад нашай эканомікі і нібы "закансервуе" наша тэхнічнае развіццё на цяперашнім узроўні, памыляюцца. Падпісанае пагадненне аб стварэнні фінансава-прамысловых груп, якія стымулююць структурную перабудову вытворчасці непасрэдна на прадпрыемствах з улікам патрабаванняў еўрапейскага рынку, і задачы павышэння канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў у рамках беларуска-расійскага супрацоўніцтва ўжо прыносяць свой плён і канкрэтныя вынікі. У завяршальнай стадыі знаходзіцца афармленне ФПГ "Славянская папера". Яшчэ сем такіх груп фарміруецца: па вытворчасці колавых трактараў, кормаўборачнай і кар'ернай тэхнікі, стварэнню элементнай базы мікраэлектронікі, тэхналагічнага абсталявання вытворчасці і ў іншых галінах.

**— Многія сродкі масавай інфармацыі, вядомыя палітыкі ў Расіі адкрыта спрабуюць "разыграць беларускую карту", прадказваючы, што "нерэфарміраваную эканоміку Беларусі наўрад ці ўтрымае на плаву, ды і наўрад ці захоча ў канчатковым выніку зрабіць гэта нават Расія". Відаць, камусьці ў Расіі выгадна сарваць працэсы інтэграцыі: маўляў, палітыкам стала вельмі цяжка тлумачыць галоднаму расійскаму падаткаплацельшчыку, што ён вымушаны больш туга зацягнуць пояс, бо трэба выцягваць "бедных беларусаў"?**

— Такія абывацельскія настроі ёсць і сярод расійскіх дэмакратаў, якія не жадаюць бачыць далей уласнага носа і нават на імкненні брацкіх народаў да яднання спрабуюць нагрэць рукі. Але такія сцвярджэнні сёння начыста разбівае волевыяўленне насельніцтва Беларусі, якое выказалася за далейшае збліжэнне з Расіяй на праведзеным рэферэндуме. Ужо сёння зразумела, што на тэрыторыі былога Саюза адбылася падзея, якая можа і павінна стаць паваротнай у лёсах не адных беларусаў, а дзесяткаў мільёнаў людзей на ўсёй тэрыторыі Садружнасці, кінутых у бездань беднасці і разладаў. Мяне радуе, што Беларусь першай пракладае шлях да рэальнага аб'яднання. І, нягледзячы на прадраканні скептыкаў, працэс збліжэння пайшоў па ўсіх напрамках. І, я веру, у такім збліжэнні Беларусь зарэкамендуе сябе раўнапраўным партнёрам.

**— Аб гэтым, мяркуючы па ўсім, сведчаць і дакументы, падпісаныя ў апошні час...**

— Па-першае, я хацеў бы сказаць, што для нас Садружнасць Незалежных Дзяржаў сёння — гэта перш за ўсё кожная канкрэтная дзяржава, з якой мы жадаем мець трывалыя двухбаковыя ўзаемавыгадныя адносіны. Але прыярытэты на гэтым этапе мы, безумоўна, аддаём Расіі.

А што датычыцца дакументаў, аб якіх вы гаворыце, то ўступленне іх у сілу (Пагадненне аб стварэнні Мытнага саюза і Пратакол аб увядзенні рэжыму свабоднага гандлю без выключэнняў і абмежаванняў і звязаныя з гэтым змена экспартных пошлін, прадастаўленне суб'ектам гаспадарання Беларусі магчымасці закупляць прадукцыю па ўнутраных расійскіх цэнах) дасць магчымасць стабілізаваць эканоміку. Стварэнне зоны свабоднага гандлю з адменай тарыфных і нетарыфных абмежаванняў, падпісанне пагаднення аб узаемнай канвертацыі валют практычна здымаюць бар'еры ва ўзаеморазліках, чаго так чакалі кіраўнікі нашых прадпрыемстваў... Кожнае пагадненне з пакета дакументаў, падпісаных з Расіяй, само па сабе жыццёвае і прадыктавана патрабаваннем рэальнасці. Усе пагадненні накіраваны не толькі на паглыбленне інтэграцыі, але і на стварэнне прадпасылак для работы ва ўмовах раней існуючай, а цяпер разбуранай інтэграцыі. Дружалюбны і ўзаемавыгадны, а гэта, паверце, не пустое слова, характар беларуска-расійскіх адносін, узаемная зацікаўленасць у паляпшэнні і расшырэнні супрацоўніцтва на двухбаковай аснове, надзейныя партнёрскія адносіны выгадныя і Расіі, і Беларусі. І я перакананы — мы іх умацуем і разаўём.

**Ірына ГАРАНІНА,**
**Белінфарм.**

*Масква.*

## По мнению Горбачева, перестройку предали

***"Предательство везде и во всем" — так оценивает ситуацию в России бывший президент бывшего Советского Союза Михаил Горбачев.***

Он заявил об этом на встрече с представителями местной интеллигенции в Музее политической истории Санкт-Петербурга.

Перестройка, по мнению Горбачева, "закончилась с победой над ГКЧП". "Процесс превращения Советского Союза в цивилизованное государство на этом прервался", — отметил Михаил Горбачев. Причинами, считает он, являются "неиспользованный кредит доверия к начавшим перестройку", а также распад Советского Союза. Свою задачу бывший президент Советского Союза видит в "способствовании проведению истинно демократических выборов". Оценивая деятельность Владимира Ленина, Горбачев отметил, что самой лучшей чертой этого политического деятеля он считает "способность вовремя изменять свое решение и поведение".

Наибольшим политическим авторитетом для Горбачева является Георгий Плеханов, "человек, совмещавший в себе верность идеалам социализма с приверженностью демократии".

## Интересы США и Украины пересеклись в небе

***Представители правительств США и Украины подписали протокол о сотрудничестве в области гражданской авиации.***

Условиями протокола четырем авиалиниям с каждой стороны разрешается организация регулярных пассажирских рейсов и двум авиалиниям с каждой стороны — регулярных грузовых рейсов, при этом общее количество рейсов составит 22 в неделю. По условиям протокола авиалинии могут вступать в партнерские отношения с авиалиниями других стран, в том числе третьих стран, на ограниченной основе.

Самолеты авиакомпаний США смогут совершать рейсы в Киев, Львов, Одессу, Днепропетровск и еще три украинских города, которые будут определены позже, а также в 10 украинских городов в рамках совместной деятельности с украинскими авиалиниями.

Самолеты украинских авиакомпаний смогут совершать рейсы в Нью-Йорк, Чикаго, Вашингтон, Лос-Анджелес и Бангор (штат Мэн) и еще в три города США, которые будут определены позже, а также в 10 городов США в рамках совместной деятельности с авиалиниями США.

Кроме того, чартерные авиалинии каждой страны могут осуществлять до 225 рейсов в год, при этом авиалинии могут заключать договоры с автотранспортными компаниями страны-партнера для обеспечения более эффективной доставки грузов.

# Как Коналю удивили всех...

## Преступники не предполагали, что погибнут от столкновения с маленьким "уазиком"

В тот день в подмосковном Серпухове инкассаторы сопровождали огромную сумму денег... Внешне ничего не предвещало беды, но вдруг движущийся по встречной полосе ГАЗ-53 выскочил наперерез небольшому "уазику". Столкновение было неожиданным и тяжелым — лоб в лоб. Оба бандита, находившиеся в кабине грузовика, были мгновенно раздавлены двигателем своего автомобиля, который от удара с "уазиком" сорвало с рамы и втолкнуло к ним в кабину... Личности преступников, вооруженных, а также ранее судимых, установлены. На что они рассчитывали — установить сложно. Наверное, на легкую добычу больших денег? Их нет — нет и ответа. А как же экипаж "уазика"? С ним оказался полный порядок. "Уазик" Коналю пострадал незначительно: помялся бронированный передок, треснуло лобовое стекло. Так был открыт счет нападений на машины российской фирмы Коналю.

Кстати, впоследствии варианты суровых по своей жестокости нападений преступников на бронированные автомобили нового поколения были различны. Очевидно одно — эти машины спасли жизни уже более двадцати инкассаторов.

Развернувшаяся в России конверсия дала немало положительного. Еще в конце 1989 года группа инженеров-энтузиастов создала в Набережных Челнах предприятие под названием "Коналю": решили освоить выпуск легкого броневика для инкассации. Идея довольно скоро была реализована, тщательно проверена и испытана. За основу брались автомобили УАЗ, для их бронирования использовали конструкционный алюминий, разработанный в авиационной промышленности для обшивки истребителей. Отсюда и сокращение — "Коналю". Новые "крепости на колесах" оказались в два раза легче и в два-три раза дешевле аналогичных зарубежных образцов, таких, как БМВ, "Лябье", "Форд", а это позволило брать больше груза при сокращении изнашиваемости автомобиля. Коналю "пристреляли" из различных видов стрелкового автоматического оружия, опробовали в условиях полигона.

Вскоре автоновинка стала очень популярной в России, странах СНГ и в Прибалтике. Самое интересное, что штат предприятия из чуть более ста работников сегодня активно наращивает выпуск своей продукции. С конвейера сошла уже почти тысяча этих машин (заинтересовались? — тел. (0172) 96-44-54). В том числе произведены авто и по индивидуальным заказам. Коллективу молодого предприятия еще предстоит улучшить системы кондиционирования, пожаротушения, блокировки дверей, отделку салона, дизайн. Инженерная мысль, как, впрочем, и жизнь, не стоит на месте. Еще предстоит создать новые материалы, освоить высокие конверсионные технологии, соответствующие мировому уровню в подобной области техники. А пока: "ни пуха, ни пера, Коналю"...

**Сергей ОВЧИННИКОВ.**

## ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ

### Серада, 24 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**15.00** Навіны.
**15.10** "Дзяржаўная граніца". Фільм 1-ы. "Мы наш, мы новы..."
**16.20** Іграе Мінскі маладзёжны ансамбль скрыпачоў музыкальнага вучылішча імя М.Глінкі.
**16.40** SOS.
**16.45** "Так гэта было..." Вайна з салдацкага акопа.
**17.05** "Наш вечны зніч". Частка 3-я.
**17.35** "Вясна і "Каханачка". Народны ансамбль бытавых інструментаў Лідскага раёна.
**18.00** АТН, Бі-бі-сі, Сі-эн-эн.
**18.45** Футбол. Алімпійскі адборачны турнір. Зборная Беларусі — зборная Нарвегіі.
**19.35** Студыя "Эксклюзіў". "Старонка".
**19.45** Тэлевізійная прэс-канферэнцыя.
**20.30** Дзень стагоддзя.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.35** Студыя "Палітыка".
**21.50** Кліп-канцэрт. Сяргей Чумакоў.
**22.05** "Сенсацыя". Маст. фільм.
**23.00** Навіны.
**23.15** Дзённік тэлефоруму "Экамір-95".
**23.50** Пад купалам Сусвету.
**24.00** Шоу-прагноз.

**І канал**

**14.00, 23.30** Навіны.
**15.50** Фан-клуб.
**16.00** Шпаргалка.
**16.05** "Элен і хлопцы".
**16.30** Цін-тонік.
**17.00, 20.00** Час.
**17.20** "Адгадай мелодыю".
**17.45** У гэтыя дні 50 гадоў таму.
**18.00** Гадзіна пік.
**18.25** "Дробязі жыцця".
**18.55** "Фабрыка мары".
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.50** Спартыўная праграма.
**21.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Аякс" (Галандыя)—"Мілан"(Італія)

**Канал "Расія"**

**16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**16.20** Далёкі Усход.
**16.50** Ніхто не забыты.
**16.55** Футбол. ЦСКА —"Дынама" (Масква).
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** "Санта-Барбара".
**20.30** Лідэр-прагноз.
**21.00** 60 хвілін.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.50** "Брава, Сухаў..." Юбілей фільма "Белае сонца пустыні".

**Санкт-Пецярбург**

**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** "Мануэла".
**14.15** Парады садаводам.
**14.30, 18.30, 21.40** Інформ ТБ.
**14.40** "Прагулка па эшафоту". Маст. фільм.
**16.05** "Вясна свяшчэнная". Фільм-балет.
**16.45** Гістарычны альманах.
**17.20** Дзіцячае ТБ. "Філімон і д'яблы.
**18.00** Тэлемагазін.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.45** Спартыўныя навіны.
**18.55** "Мануэла".
**19.45** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** Кансерватар.
**20.30** Блеф-клуб.
**21.05** "Тут жывуць..." Рэпартаж з Чэчні.
**21.55** Спорт.
**22.10** "Марыс Бежар. Парадокс". Музычны фільм (Францыя).
**22.55** "Замак Пампон Руж". Маст. фільм.

**8-ы канал**

**18.00** Мультфільм "Храбрае жабяня".
**18.30** Усходнія адзінаборствы. Канон У-шу.
**19.15** Тэлесерыял "Арбалет".
**20.00** Мультфільм У.Діснея "Беласнежка і сем гномаў".
**20.45** Тэлесерыял "Горац".
**21.30** Муз-парад.
**21.45** Дэтэктыў... Баявік... Маст. фільм "Брудныя гульні" (ЗША).
**23.15** Музыкальны фільм "Адліга".

**НТБ**

**17.00** Мультфільмы.
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** "Дон мёртвы". Маст. фільм (ЗША).
**21.35.** "Паліцыя Майамі. Аддзел нораваў".
**22.30.** Часінка.
**23.15** Кафэ "Абломаў".

## Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па ўсходняй палавіне кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 16—18, Брэсце, Віцебску, Мінску — 17—19, Магілёве — 18—20, Гомелі — 20—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы і навальніцы. Тэмпература паветра ўначы — 7—12, удзень — 20—25 градусаў цяпла.

## Астранамічны каляндар — 24.05

Узыход і заход сонца: Мінск — 4.54, 21.19; Віцебск — 4.37, 21.16; Магілёў — 4.43, 21.08; Гомель — 4.47, 20.59; Гродна — 5.09, 21.34; Брэст — 5.19, 21.25.

Даўжыня дня ў Мінску — 16 гадзін 25 мінут.

Апошняя квадра — 21 мая.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Даведкі па тэл.: 68-28-70, 68-25-59.
Рэкламнае бюро — тэл. (0172) 68-28-11, тэл./факс (0172) 68-25-29, 68-25-28.

Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.

Індэкс 63868

Заснавальнік — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.
Адрас: Мінск, вул. К. Маркса, 38.
Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.
Падпісана ў друк у 19.10. Зак. 1632.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". Адрас: Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Галоўны рэдактар
Мікалай ГАЛКО

